# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№5(9)
МАЙ
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

# КРАЯЗНАЎЦЫ ГРОДНА АБ`ЯДНАЛІСЯ!

## СТВОРАНА ГАРАДСКОЕ ТАВАРЫСТВА

10 траўня ў Гродне адбыўся арганізацыйны сход па стварэнні гарадскога краязнаўчага таварыства (ГГКТ). Сярод заснавальнікаў – вядомыя ў горадзе гісторыкі, навукоўцы, літаратары, журналісты, дзеячы культуры і мастацтва, настаўнікі, лідэры краязнаўчых маладзёвых грамадскіх арганізацый.

Зацверджаны статут. Абраны сябры Рады ў колькасці сямі асобаў, а таксама рэвізійнай камісіі.

Раду ўзначаліў кандыдат гістарычных навук **Вячаслаў Швед.**

## ЗАСНАВАЛЬНІКІ – ВЯДОМЫЯ АСОБЫ

Гэта Майсяёнак А.Г., Куль-Сільверстава С.Я., Госцеў А.П., Ігнатовіч Ф.І., Задаля В.С., Харытонаў С., Піваварчык С.А., Шоцік В.І., Жынь К.У., Мялешка А., Талерчык А.С., Бахараў В.А., Руселік В.В., Швед В.В., Марозава С.В., Трусаў І.Г., Кітурка Ю. В., Пяткевіч А.М., Турмасава Л.І., Кузняцоў С.А., Аляшкевіч Дз.С.

## ЯНЫ АБРАНЫ СЯБРАМІ РАДЫ

**Кітурка Юрый** – супрацоўнік Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.
**Кузняцоў Сяргей** – намеснік старшыні Гродзенскага маладзёвага краязнаўчага аб'яднання "Краявід";
**Марозава Святлана** – кандыдат гістарычных навук, выкладчыца ГрДУ імя Янкі Купалы;
**Пяткевіч Аляксей** – прафесар ГрДУ імя Янкі Купалы;
**Трусаў Ігар** – галоўны спецыяліст па праектных працах дырэкцыі па рэстаўрацыі пры Гродзенскім аблвыканкаме;
**Турмасава Любоў** – загадчыца аддзела краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Яўхіма Карскага;
**Швед Вячаслаў** – старшыня Рады, кандыдат гістарычных навук, дацэнт ГрДУ імя Янкі Купалы.

# ЗНАЧНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

***Адкрыў арганізацыйны сход гродзенскіх краязнаўцаў прафесар, доктар біялагічных навук, старшыня Гродзенскай абласной краязнаўчай асацыяцыі Андрэй Майсяёнак. У прыватнасці, ён адзначыў:***

— На Гродзеншчыне назіраецца ўстойлівае пашырэнне краязнаўчага руху. У вобласці працуюць Беларускае краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута, абласная краязнаўчая асацыяцыя. Моцна заявіла аб сабе Лідскае краязнаўчае таварыства. Ёсць свае арганізацыі ў Іўі, Ашмянах, Бераставіцы, Навагрудку. Летась у нас з'явіўся бюлетэнь – "Краязнаўчая газета", які аб'ядноўвае амаль 270 чытачоў з усіх куткоў Беларусі. Доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч выдае "Гістарычны альманах", які карыстаецца вялікім попытам не толькі ў спецыялістаў…

І ў той жа час у Гродне няма краязнаўчай арганізацыі! Пагэтаму стварэнне гарадскога краязнаўчага таварыства трэба ўспрымаць, як значную падзею.

**«КГ»**



## СТАРШЫНЯ РАДЫ ГГКТ

**Швед Вячаслаў Вітальевіч** (нар.7.10.1956) – дацэнт кафедры гісторыі славянскіх дзяржаў. Кірункі навуковых інтарэсаў: эканамічнае і грамадска-палітычнае жыццё Беларусі канца 18-га — першай паловы 19-га ст., гісторыя Гродна канца 18-га – пачатку 20-га ст. Аўтар каля 150 навуковых прац.

Сярод іх таксама брашуры і зборнікі па гісторыі Гродна і Гродзеншчыны: *Наш край. Гродзеншчына ў канцы 18-га – першай палове 19 ст.* (1990); *Па слядах Гродзенскай даўніны* (1993); *Кронан. Летапіс горада на Нёмане. 1116-1990.* (У сааўтарстве з А.П.Госцевым. – 1993); *Падзеі і постаці Гродзенскай даўніны* (1995); *Горадзен. Аповяды з гісторыі горада. 10 ст. – сярэдзіна 16 ст.* (1996). *Горадня. Аповяды з гісторыі горада. Сярэдзіна 16-га ст. – канец 18-га ст.* (1997); *Вялікі Гарадзенскі Сабор 2-га тысячагоддзя. Партрэтная галерэя славутых гістарычных асобаў 12-га – 20-га ст. Частка 1-я.* (1997); *Kanal Augustowski. Szlak wodny euroregionu Niemen. – Augustow-Suwalki.* (2000). Аўтар краязнаўчых календароў *"Гродна"* (1997,1998 г.), турыстычнага буклета *"Гродна: мінулае ў сучасным"*.

■ **УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ**

# ГЛЯДЗІЦЬ НАМ У ВОЧЫ МАКСІМ БАГДАНОВІЧ...

***На май бягучага года прыпадае 15-годдзе адкрыцця музея Максіма Багдановіча ў Гродне і традыцыйны гарадскі Дзень памяці гэтага класіка беларускай літаратуры. Дырэктар музея Алена Гайко ўдакладняе:***

— Давайце напачатку разбярэмся з фактамі. Афіцыйна музей быў адчынены 16 мая 1986 года ў доме, у якім сям'я Багдановічаў пражыла некалькі гадоў. Збор экспанатаў пачаўся 9 верасня 1981 і вёўся да вясны 1986 года. Музей мае гістарычную і літаратурную залы, мемарыяльныя пакоі. Тут шырока прадстаўлена гісторыя сям'і Багдановічаў, развіццё беларускай літаратуры ў канцы 19-га — пачатку 20-га стагоддзяў.

Пісьменнік памёр ад сухотаў у Ялце 25 мая 1917 года. Гэта Дзень памяці Максіма Багдановіча ў Гродне.

**— Мне запомніўся артыкул гісторыка Святланы Сільверставай з брашуры "Дарогамі Максіма Багдановіча", выдадзенай да 100-годдзя нараджэння паэта. Вельмі ўдала паказана жыццё Гродна ў сярэдзіне 90-х гадоў 19-га стагоддзя...**

— Сёння Святлана Сяльверстава ўжо доктар гістарычных навук, дасціпны і ўважлівы вучоны. Яна здолела спасцігнуць дух тагачаснага Гродна, калі ў чэрвені 1892 года бацька Максіма, Адам Ягоравіч Багдановіч, з прычыны здароўя быў вымушаны пераехаць сюды з Мінска і ўладкавацца на работу. У ліпені прыехала і Марыя Апанасаўна з дзецьмі. Максіму на той час было восем месяцаў.

Характарыстыка 50-тысячнага шматнацыянальнага горада з яго 13-цю буйнымі прадпрыемствамі, чыгуначнай дарогай, моцнай сельскай гаспадаркай, культурнымі ўстановамі, у прыватнасці, губернскай публічнай бібліятэкай, 69-ю навучальнымі ўстановамі дае ўяўленне, у які асяродак трапілі бацькі паэта. Адам Ягоравіч быў уведзены ў склад савета бібліятэкі, быў агентам Таварыства драматычных пісьменнікаў і оперных кампазітараў. У горадзе існавалі два тэатры, у якіх выступалі выдатныя артысты, напрыклад, Арленеў, Вішнеўскі, Гарын. Выдаваліся газеты. Рэдактарам "Гродненских губернских ведомостей" быў Канстанцін Давыдовіч. Ён стаў хросным бацькам дачкі Багдановіча — Ніны, народжанай у Гродне. У гэтым выданні Адам Ягоравіч надрукаваў некалькі сваіх работ – "Пра паншчыну", рэцэнзію на паэму "Тарас на Парнасе", а яго жонка – апавяданне "Накануне рождества"...

**— Можна казаць, што дзіцячыя назіранні Максіма былі яскравымі і запамінальнымі. Літаратурны ўплыў бацькоў таксама меў свой працяг у яго творчасці. Прыродны талент, памножаны на працалюбства, далі плён у будучым...**

— Заўсёды цікава прасачыць за лёсам адметнага чалавека. Гродзенскі перыяд жыцця Максіма Багдановіча амаль нідзе не адлюстраваны. Змястоўныя штрыхі можна знайсці ў перапісцы бацькоў. Марыя Апанасаўна паведамляла мужу, які быў у ад'ездзе, напрыклад, што 20 красавіка 1893 года Максім моцна захварэў. Выклікала доктара. Пасля занялася загартоўваннем дзяцей. Максім вельмі баіцца абціранння халоднай вадой. Застаецца худым і без дай прычыны плача. Часцяком прастужваецца і кашляе. Увогуле, дзеці даліся ў знакі Марыі Апанасаўне. Хваравітымі былі ў малым узросце.

У той жа час Адам Ягоравіч любіў гуляць з дзецьмі ў наваколлі Гродна. Прырода тут надзвычай прыгожая, асабліва каля Нёмана. Максім, відавочна, запомніў тыя пагулянкі. Праз многа гадоў у яго з'явіцца радок "Прыпадыме бацька Неман // На хрыбце магутны лёд". У іншым творы "Кніга" паэт ўзгадае Ваўкавыск. Вядомая грамадская дзяячка, жыццёва таксама звязаная з Гродна, Зоська Верас успамінала, што Максім неяк пры нагодзе з сумам адзначыў, што ён з Гродна помніць смерць сваёй маці.

**— На жаль, паэт ніколі больш не прыязджаў у Гродна, дзе на праваслаўных могілках пахавана яго маці. Магчыма таму, што лёс так мала адвёў Максіму часу на жыццё. І тым не менш, музей ёсць, экспазіцыя дае поўнае ўяўленне пра жыццё сям'і Багдановічаў у Гродне...**

— Дарэчы, Адам Ягоравіч у пісьме жонцы 7 чэрвеня 1895 года паведамляе: "З кватэрай не ведаю як быць. Цяпер на Новым Свеце (тагачасная назва раёна ў Гродне – **А.Л.**) ёсць дзве кватэры: адна ў Агульніка, а другая супраць гарадскога саду, каля кірхі, на другім паверсе, тры пакоі і кухня". Багдановічы памянялі ў Гродне некалькі кватэр. Адна з іх, у доме Агульніка, стала музеем.

Гродзенскі пісьменнік Аляксей Пяткевіч у свой час надрукаваў інфармацыю, як 6-га мая 1965 года на сцяне гэтага дома была змешчана першая помная дошка з белага мармуру з тэкстам, што тут жыла сям'я Багдановічаў. На імпрэзе прысутнічалі стрыечная сястра Максіма па лініі маці – Ганна Гразнова, стрыечная пляменніца паэта Наталля Кунцэвіч, беларускі бібліёграф і літаратуразнаўца Ніна Ватацы, таксама паэт Ніл Гілевіч.

Празаік Аляксей Карпюк пакінуў успаміны, што ў другой палове 60-х пабыў у Яраслаўлі. Па просьбе аднаго з гродзенскіх краязнаўцаў завітаў да сваячкі Максіма Багдановіча – удавы зводнага брата Максіма Паўла – Аўгусты Іванаўны. Яна перадала нататнік паэта, фотаздымкі, пісьмы. Хацела, каб забралі таксама "іхні" куфар. Прывезеныя рэчы доўга захоўваліся ў Гродзенскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў. Частка, на жаль, у 1970 годзе была страчана. Відаць, расцягнулі на сувеніры. Карпюк вельмі шкадаваў аб тых рэчах. Тое, што засталося, і цяпер захоўваецца ў музеі: гарбатная лыжачка з ініцыяламі М.Б., інкруставаная шкатулка маці Максіма, настольная рамка-пашпарт, іншыя фотаздымкі і дакументы. У музеі ёсць рэчы сапраўды ўнікальныя: зборнік вершаў "Вянок" 1913 года выдання з уласнага збору Ларысы Ге-

ніюш. Маем таксама аднайменны зборнік ад 1927 года, у якім улічаны праўкі і ўдакладненні самога Максіма Багдановіча...

**— Максім Багдановіч адлюстраваны на пэўных фотаздымках. Гэта ж таксама каштоўныя сведчанні маленства паэта, якія, мабыць, з'яўляюцца гонарам музея?**

— На шчасце, бацькі будучага класіка роднай літаратуры былі асобамі, якія клапаціліся пра сямейны фотаальбом. Гродзенскі фотамайстар Садоўскі-Казлоўскі сфатаграфаваў Марыю Апанасаўну з сынам Максімам. Гэта першае ў жыцці фота паэта. Тут фатаграфаваўся і Адам Ягоравіч.

**— Усё гэта жыхары Гродна і госці горада могуць уласнавоч пабачыць у музеі. У снежні святкуецца 110-годдзе паэта. Якія асноўныя мерапрыемствы плануецца правесці?**

— Юбілейныя ўрачыстасці рыхтуе створаны з гэтай нагоды аргкамітэт на чале з начальнікам упраўлення культуры аблвыканкама Людмілай Кадзевіч. Мяркуецца правядзенне літаратурных вечароў, паседжанняў літаратурных гасцёўняў, чытацкіх канферэнцый, конкурсу выканаўцаў твораў паэта, а таксама чытальнікаў уласных вершаў, прысвечаных Максіму-кніжніку, малюнкаў юных мастакоў. Навукоўцы Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы правядуць навуковую канферэнцыю на тэму "Максім Багдановіч: аспекты жыцця і творчасці". Ужо сёння навуковыя супрацоўнікі музея актыўна друкуюцца ў мясцовых газетах, выступаюць па радыё і тэлебачанні.

Так што дзень нараджэння Максіма Багдановіча будзе прыкметнай з'явай у жыцці Гродна.

Гутарыў
Антон Лабовіч

■ ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# НА ЗДЫМКУ МАКСІМ БАГДАНОВІЧ?



9 снежня спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча (1891-1917). У маленстве ён жыў у Гродне (1892-1896). Тут пахавана яго маці Марыя Апанасаўна.

Знайсці новыя звесткі пра Максіма вельмі цяжка. І пагэтаму кожнае паведамленне выклікае сапраўдны энтузіязм у даследчыкаў творчасці паэта.

Так сталася з гэтым фотаздымкам. Жыў калісьці ў Азёрах Пётр Іванавіч Голубеў. Яго ўжо даўно няма на гэтым свеце. У час Першай сусветнай вайны зведаў бежанства, але вярнуўся на радзіму. Захаваў сямейны фотаальбом. Часам распавядаў пра здымак. Дзецям запомніліся словы бацькі: "Тут я сфатаграфаваны з беларускім паэтам Максімам Багдановічам".

На жаль, старэйшы сын памёр, малодшыя не памятаюць падрабязнасцяў бацькоўскага расповяду. Дзе фатаграфаваліся, у які год, што за грамада і з якой нагоды рабіла здымак на памяць? І ці сапраўды на здымку Максім Багдановіч?

Мы змяшчаем фота ў газеце. Асобна вылучаем постаць асобы, вельмі падобнай на Максіма. Можа нехта з краязнаўцаў, гісторыкаў, навукоўцаў прадоўжыць нашу гаворку. Не проста ж так жыхар Гродзеншчыны Пётр Голубеў сказаў словы, якія запомнілася яго дзецям.

Алена Віктаровіч

■ **КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ**

# "ТАКСАМА НЕШТА РОБІМ..."

Вялікі дзякуй за нумары "Краязнаўчай газеты". Як казаў Сакрат Яновіч: "Цалкам прыстойныя выданні". З цікавасцю іх прачытаў, буду агітаваць сваіх вучняў да ўдзелу ў абвешчаных вамі конкурсах.

Мы таксама тут троху нешта робім. У Паставах заснаваўся інфармацыйна-выдавецкі цэнтр. Выдаём бюлетэні "Сумежжа", "Крэсы", "Краязнаўца Паазер'я", "Шыпшына", "Сяброўка", "Ліхтарык", "Тамара". У хуткім часе павінна з'явіцца літаратурная "Выспа". Я маю непасрэднае дачыненне да выдання "Шыпшыны" ды "пастаўляю" крыху матэрыялаў "Краязнаўцу Паазер'я"...

Хацеў бы летам наладзіць водную вандроўку ад Нарачы па Мядзелцы да Дзісны (Васілін) дзён на пяць. Вось толькі, каб хоць троху грошай на гэтае мерапрыемства. Думаю, даказалі б існаванне старажытнага шляху...

**Ігар Пракаповіч.**
**г. Паставы, Віцебская вобласць.**

*Ліст з рэдакцыі «Краязнаўчай газеты»*

# КРАЯЗНАЎЦУ ІГАРУ ПРАКАПОВІЧУ

Ведаем Вас, як знанага краязнаўцу роднага краю, сур'ёзнага даследчыка мінулага, які робіць вялікую работу па вяртанню гістарычнай памяці, прапагандзе айчыннай спадчыны. Вашы артыкулы часцяком змяшчаюцца ў друку.




Глыбокая эрудыцыя спатрэбілася Вам пры рабоце над уласнай брашурай "Адкуль паходзяць назвы" (Назвы рэк і азёр Пастаўскага раёна). Кніжка была выдадзена летась у Наваполацку. Багатым матэрыялам вылучаецца другая частка брашуры – "Гідранімічны слоўнік". Вам удалося сабраць змястоўныя звесткі пра геаграфічныя назвы 82-х рэк і азёраў раёна. За гэтым стаяць вандроўкі і экспедыцыі, шматгадовая праца ў архівах, вывучэнне слоўнікаў і тапаграфічных карт, геаграфічны аналіз водных аб'ектаў. Наперадзе чакае працяг гэтай кнігі.

Будзем лічыць за гонар мець такога актыўнага аўтара!

# СТАРАДРУКІ – У НАДЗЕЙНЫЯ РУКІ!

Многія ведаюць, што ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі ў Новым замку захоўваецца багаты кнігазбор выданняў 15-га – пачатку 20-га ст. па розных галінах ведаў і на розных еўрапейскіх мовах. Збіралася гэтае багацце сапраўднымі грамадзянамі свайго краю больш за 80 гадоў. Ніводзін музей Беларусі не валодае такой каштоўнай старадаўняй бібліятэкай.



Мы працягваем і надалей павялічваць кнігазбор. За дзесяць гадоў існавання Аддзела рэдкіх кніг і старых выданняў фонд павялічыўся на 2500 адзінак. І ўсё гэта дзякуючы намаганням навуковых супрацоўнікаў музея. Жыхары Гродзеншчыны таксама перадаюць знойдзеныя ці захаваныя ў сям'і кнігі. Такіх інтэлігентных людзей яшчэ нямала ў нашым краі. Найперш, гэта Кацярына Іванаўна Марцінчык і яе сын Мікалай Мікалаевіч. Яны перадалі ў музей каштоўныя і рэдкія беларускія газеты, часопісы, кнігі – усяго 48 адзінак. Доктар біялагічных навук Андрэй Георгіевіч Майсяёнак і яго бацька Георгій Нікіфаравіч перадалі нам са сваёй уласнай бібліятэкі 20 каштоўных выданняў. Дацэнт ГрДУ Мікалай Нікіфаравіч Бяспамятных перадаў у Аддзел значную калекцыю падручнікаў 19-га ст. Каштоўныя кнігі перадалі кандыдат гістарычных навук Аляксандр Фёдаравіч Смалянчук, пляменніца гродзенскага яўрэйскага паэта Лейбы Найдуса – Валянціна Найдус-Смалярова, якая жыве ў Варшаве. Нізкі паклон усім гэтым добразычліўцам.

Я звяртаюся ў "Краязнаўчую газету", каб папрасіць краязнаўцаў, настаўнікаў, гісторыкаў, усіх неабыякавых людзей: паведамляйце нам, калі пабачыце ці пачуеце, што старыя кнігі захоўваюцца ў дрэнных умовах (тэл. 44-40-82). Прамаруджванне вядзе да поўнай страты каштоўных рарытэтаў. Вось прыклады. У Аддзел прынеслі кнігу – рэдкае і каштоўнае віленскае выданне пачатку 17-га ст. Але кнігай гэту рэч назваць ужо нельга. Помнік гісторыі і культуры ўжо знішчаны ўшчэнт ад няправільнага захавання. Гэта не адзіны такі выпадак. У музей часта трапляюць старадрукі, газеты, важныя дакументы, якія загублены недасведчаным чалавекам.

Некаторыя рэчы, якія можна паспрабаваць "вылечыць", мы спрабуем ратаваць. Іншым, часцей каштоўным, дапамагчы ўжо немагчыма. Кнігі, рукапісы, дакументы 15-га – 18-га ст. вельмі далікатныя, з паперы анучнай ручнога адліву, праклееныя жывёльным клеем, пагэтаму з'яўляюцца спакусай для розных шкодных насякомых і грызуноў, лёгка рассыпаюцца ў прах. У душы застаецца горыч страты.

Я ведаю, яшчэ захавалася нямала скарбаў нашай культурнай кніжнай спадчыны. Рознымі шляхамі траплялі старыя кнігі на паліцы дамашніх бібліятэк, у куфэркі, "за абразы" нашых родных сталага веку. Ці клапатліва зберагаюцца старадрукі? Можа ёсць сэнс звярнуцца ў наш музей і спецыялісты дадуць карысную параду, дапамогуць, возьмуць пад надзейнае апекаванне?!

**Ванда Шоцік,**
**загадчык Аддзела рэдкіх кніг і старадрукаў ГДГАМ.**

# НАШ КРАЙ АДМЕТНЫ, БРАСЛАЎСКІ...

Рэгіянальнае браслаўскае краязнаўчае таварыства аб'ядноўвае супрацоўнікаў музея, краязнаўцаў, настаўнікаў, навукоўцаў. Галоўнымі мэтамі з'яўляюцца правядзенне ўсебаковых аб'ектыўных і незалежных гістарычных даследаванняў рэгіёна, прапаганда і папулярызацыя гістарычнай спадчыны, каардынацыя школьнага краязнаўчага руху.

Таварыства было створана напрыканцы 1989 года пры Браслаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Аднак актыўнай дзейнасці ў першыя гады існавання не было. У 1994 годзе кола сяброў арганізацыі значна пашырылася. Нас прынялі ў Беларускае краязнаўчае таварыства ў якасці асацыяванага сябра. Мы пачалі ажыццяўляць уласныя праекты.

Нас сёння 18 сяброў не толькі з Браслаўшчыны, але Мёраў, Глыбокага, Гродна, Даўгаўпілса (Латвія). У склад арганізацыі ўваходзяць школьныя краязнаўчыя гурткі – з вёскі Пагошча (кіраўнік Віктар Бунта) і з вёскі Дрысьвяты (кіраўнік Эма Шавэла). Работа школьнікаў неаднойчы высока ацэньвалася за ўдзел у конкурсах абласнога і рэспубліканскага ўзроўню.

З 1998 года таварыства носіць імя Отана Гедэмана (Otton Hedemann), выдатнага краязнаўцы і гісторыка, аўтара шэрагу манаграфій па гісторыі Браслаўшчыны, аднаго з заснавальнікаў у Браславе краязнаўчай арганізацыі ў 20-30-я гады ХХ-га стагоддзя.

Сваю працу каардынуем з музеем, які цяпер мае статус музейнага аб'яднання. Тут наша тэхнічная база.

Маем досвед у выкананні шэрагу праектаў. З 1990 года ў Браславе праводзяцца навукова-краязнаўчыя канферэнцыі "Браслаўскія чытанні". Апошняя, пятая па ліку, адбылася ў красавіку 2000-га. Удзельнічалі каля 40 даследчыкаў з пяці краінаў. З 1996 года выдаецца гістарычны зборнік "Браслаўскія сшыткі". Падрыхтаваны чацьвёрты выпуск. Таварыства выдала 14 буклетаў і брашур краязнаўчай тэматыкі, у прыватнасці, дапаможнік для настаўнікаў "Наш край Браслаўшчына" (1993), камплект каляровых паштовак "Гісторыя Браслава ў малюнках (2000). Сябры таварыства бралі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы кнігі "Памяць. Браслаўскі раён". Летам арганізуем для дзяцей гуманітарныя летнікі (Рацюны-1999, Укля-2000), краязнаўчыя вандроўкі і экскурсіі.

Браслаўскае краязнаўчае таварыства падтрымлівае цесныя сувязі з грамадскімі арганізацыямі, установамі, даследчыкамі Гарадзеншчыны. Першыя чытанні ў Браславе праведзены па ініцыятыве і пры дапамозе Міхася Ткачова і Андрэя Майсяёнка. На кожнай канферэнцыі прысутнічае прадстаўнічая дэлегацыя гарадзенцаў. Гарадзенец Генадзь Семянчук з'яўляецца сябрам аргкамітэту чытання, сябрам рэдакцыйнай рады "Браслаўскіх сшыткаў" і сябрам таварыства. Многія сябры адначасова ўваходзяць у склад Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі. Апошні томік "Браслаўскіх сшыткаў" прысвечаны нараджэнцу Гарадзеншчыны Станіславу Нарбуту, які звыш 40 гадоў працаваў лекарам у нашым краі. Гэта малодшы сын славутага Тодара Нарбута.

Браслаўскае краязнаўчае таварыства рыхтуе да выдання зборнік матэрыялаў апошніх "Браслаўскіх чытанняў". Неўзабаве плануе выдаваць краязнаўчы бюлетэнь "Павет". Вядзецца падрыхтоўка правядзення ў Браславе семінара краязнаўчых асацыяцый Віцебшчыны, дзіцячага гуманітарнага летніку.




Мы заклікаем да супрацоўніцтва ўсіх, каго цікавіць мінулае Браслаўшчыны, аднаго з найпрыгажэйшых рэгіёнаў краіны.

Нашы каардынаты: 211970, Браслаў, Энгельса, 39.
Тэл. (02153) 21-4-45, музей.
Тэл./факс 21-4-28.
E-mail: bkt@bsmus. lingvo. vitebsk. by

**Кастусь Шыдлоўскі,**
**старшыня Браслаўскага краязнаўчага таварыства.**
**Віцебская вобласць.**

# ЧЫТАЎ НАВАТ КАРОЛЬ ПАНЯТОЎСКІ...

**У маі 1746 г.у Гродне пачала выдавацца першая перыядычная на тэрыторы Беларусі "Газэта Гродзеньска" – ("Gazeta Grodzienska"). Ад тых дат мінула 225 гадоў...**

Яна была на польскай мове, выходзіла раз на тыдзень па чацвяргах фарматам дзве старонкі 20х15 см. У выключных выпадках аб'ём павялічваўся ўдвая: калі імператрыца Кацярына II падарожнічала па Беларусі ў 1780 годзе.

Газета вылучалася смеласцю. Пра гэта сведчыць незадавальненне караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У перадавых артыкулах абмяркоўваліся надзённыя грамадска-палітычныя праблемы. Кароль напісаў пісьмо гродзенскаму старасце Антонію Тызенгаузу, заўважыў апошняму, што трэба пазбегнуць "дрэннага пісання". Рэкамендаваў узяць газету пад кантроль, вызначыць асобу, "якая мела б абавязак складаць кожны нумар і потым паказваць газету Вяльможнаму Пану перад друкам».

Пасля прыкрай памылкі адносна іспанскага караля, у Гродне ўвялі пасаду газетнага цэнзара. Выданне змяшчала палітычныя навіны з усяго свету, паведамляла пра жыццё каралеўскага двара ў Варшаве, змяшчала ўрадавыя аб'явы Скарбовай, Кароннай і Літоўскай камісій, адлюстроўвала мясцовыя падзеі. Асаблівая ўвага з'вярталася на беларускія правінцыі, якія ў 1772 годзе адыйшлі да Расійскай імперыі. Магчыма, першым рэдактарам перыядычнай газеты ў Беларусі быў нехта Браун, сакратар Гродзенскай пошты, ці Сабалеўскі, супрацоўнік паштамту. Друкарняй кіраваў ксёндз Карл Маліноўскі.

"Газета Гродзенская" вызначалася аператыўнасцю. Напрыклад, вельмі хутка быў змешчаны рэпартаж пра знаходжанне караля ў Гродне (1777) і Слоніме (1778). Гэтыя матэрыялы дасылаліся таксама ў сталічную "Газету Віленскую". Выданне спрабавала ўплываць на палітычныя погляды грамадства, паведамляла пра работу гродзенскіх сеймікаў. Стараста Антоні Тызенгауз імкнуўся абудзіць давер да сваёй дзейнасці. Апошні нумар газеты выйшаў 28 студзеня 1780 года.

**Сцяпан Ярашчук**

# БІБЛІЯТЭКА І КРАЯЗНАЎСТВА

**Наша спадчына – непадзельная частка памяці, звяно, якое лучыць мінулае, сучаснасць і будучыню. Чым больш мы ведаем пра родны край, тым даражэйшым ён становіцца для нас. Таму нядзіўна, што ў апошні час узрасла цікавасць да гісторыі роднай зямлі, уласных каранёў, глыбокага пазнання «малой радзімы». Пра гэта сведчаць шматлікія запыты нашых карыстальнікаў.**

Цэнтрам бібліятэчнага краязнаўства ў рэгіёне з'яўляецца абласная навуковая бібліятэка імя Я.Ф.Карскага. Асноўныя функцыі нашай бібліятэкі – фармаванне фонду краязнаўчых і мясцовых дакументаў, якімі яна і адрозніваецца ад іншых абласных бібліятэк. Аддзел краязнаўства бібліятэкі — адзін з каналаў дакументальнага і інфармацыйнага забеспячэння краязнаўчага руху. Сёння мы валодаем багацейшым і найбольш поўным зборам дакументаў аб рэгіёне. У выданнях адлюстроўваецца прамысловасць, сельская гаспадарка, навука, асвета, культура, мастацтва, літаратура, грамадскае жыццё. І геаграфічнае становішча вобласці, і прыродныя ўмовы таксама знайшлі ўвасабленне ў дакументах.

Разнастайны рэпертуар выданняў у аддзеле аб гісторыі Гарадзеншчыны. Сярод іх — працы вядомых гарадзенскіх даследчыкаў В.Шведа, А.Госцева, В.Чарапіцы, А.Дабрыяна, А.Смаленчука, Я.Жабруна. Гонар аддзела – выданні дарэвалюцыйнага і даваеннага перыяду. Дакументы 19-га – пачатку 20-га стагоддзяў прадстаўлены працамі губернскага статыстычнага камітэта. Сярод іх – агляды, памятныя кніжкі Гарадзенскай губерні, рэдкія манаграфіі.

Немагчыма не пералічыць найбольш значныя выданні даваеннага перыяду – "Обзор народного хозяйства Польши (Варшава, 1927 г.), А.Кайгародава "Клімат Заходняй Беларусі" (Менск, 1932 г.), А.Зязюлі "З роднага загону" (Вільня, 1931 г.).

У аддзеле краязнаўства ёсць усе мясцовыя перыядычныя выданні: падшыўкі абласной "Гродзенскай праўды" з 1945 года, раённых газет – з канца 50-х гадоў. Мы атрымліваем абласную, 21 назву гарадскіх, 17 раённых газет, дзесяць рэгіянальных часопісаў.

Сістэма краязнаўчых бібліяграфічных дапаможнікаў нашай бібліятэкі садзейнічае стварэнню дакументальнага інфармацыйнага банка аб вобласці. Сёння ў нас гэтая сістэма складаецца з бягучага ўніверсальнага навуковадапаможнага паказальніка "Новая літаратура аб Гродзенскай вобласці", які выдаецца штоквартальна, "Краязнаўчых календароў" і рэкамендацыйных бібліяграфічных паказальнікаў: "Мастацтва на Гродзеншчыне", "Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы – 165 гадоў", "Новыя ўмовы гаспадарання ў вёсках Гродзеншчыны" і інш. Да 170-годдзя бібліятэкі выдадзены рэтраспектыўны бібліяграфічны даведнік "Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я.Ф.Карскага. 1830-2000".

Плённая работа вядзецца ў бібліятэцы па ўкараненню новых інфармацыйных тэхналогій. З 1998 года аддзел краязнаўства займаецца стварэннем бібліяграфічных рэсурсаў у аўтаматызаваным рэжыме. Пастаянна папаўняецца новымі бібліяграфічнымі запісамі электронны банк дадзеных "Краязнаўства", і на яго базе мы выдаем бібліяграфічны дапаможнік "Новая літаратура аб Гродзенскай вобласці".

Якаснаму задавальненню краязнаўчых запытаў нашых карыстальнікаў спрыяе не толькі электронны банк дадзеных, але і традыцыйны краязнаўча-даведачны бібліяграфічны апарат, які складаецца з краязнаўчага каталога, каталога мясцовых выданняў, картатэкі прац мясцовых аўтараў, фонда даведачных і бібліяграфічных дапаможнікаў, фактаграфічнай картатэкі "Слынныя імёны Гарадзеншчыны".

У нас дзейнічае сістэма метадычных парад па арганізацыі краязнаўчай дзейнасці. Бібліятэка выдае серыю "Юбілейныя даты краязнаўчага календара". Вось найбольш удалыя выпускі – "Стваральнік Гарадніцы" (вечарына-партрэт А.Тызенгаўза), "Аляксей Якімовіч – дзецям", "Уладзімір Ягоўдзік – дзецям".

Заўсёды ў полі зроку АНБ імя Я.Ф.Карскага знаходзіцца краязнаўчая дзейнасць бібліятэк вобласці. Абагульняецца цікавы вопыт, праводзяцца мерапрыемствы па павышэнню кваліфікацыі, аказваецца метадычная дапамога.

У 1995 годзе па ініцыятыве нашай бібліятэкі і пры падтрымцы абласнога ўпраўлення культуры сярод публічных бібліятэк Гарадзеншчыны праводзіўся штогадовы конкурс "Малая Радзіма чакае сваіх даследчыкаў". Яго мэта – паглыбленне вывучэння гісторыі свайго рэгіёна, збор фальклорных твораў і рэдкіх слоў, узбагачэнне фондаў бібліятэк краязнаўчымі друкаванымі, рукапіснымі, аўдыё-візуальнымі дакументамі, выхаванне ў насельніцтва пачуцця гонару за свой родны край.

Дзякуючы конкурсу значна актывізавалася дзейнасць бібліятэк. Краязнаўчыя фонды папоўніліся дарэвалюцыйнымі і даваеннымі выданнямі, складзены "Летапісы вёсак", "Летапісы калгасаў і саўгасаў", "Летапісы бібліятэк", альбомы "Мая таленавітая вёска", "Мясцовы слоўнік", "Адкуль пайшлі назвы і імёны", "Славутыя людзі нашай мясцовасці". У Карэліцкай, Навагрудскай, Слонімскай, Смаргонскай ЦБС выдаюцца краязнаўчыя бібліяграфічныя дапаможнікі.

Наша бібліятэка носіць імя заснавальніка беларускай філалогіі Яўхіма Фёдаравіча Карскага, рэктара Варшаўскага, прафесара Петраградскага універсітэтаў, акадэміка Расійскай АН, правадзейнага члена Чэшскай АН, ураджэнца Гродзенскага раёна. У бібліятэцы ўстаноўлены бюст акадэміка, дзейнічае экспазіцыя. У нас ёсць мара: быць захавальнікамі ўсіх выданняў Я.Ф.Карскага і дакументаў аб ім. Мы спадзяемся, што ўладальнікі ўнікальных рэчаў зробяць ахвяраванні на карысць галоўнай бібліятэкі вобласці. Вам заўсёды будуць удзячны шматлікія чытачы.

Паважаныя краязнаўцы Гарадзеншчыны! Аддзел краязнаўства лічыць вялікім гонарам мець у сваім фондзе Вашы даследаванні. Калі ласка, дасылайце нам свае выданні. На адрас: 230023,Гродна, вул. Замкавая,20

**Любоў Турмасава,**
**загадчыца аддзела краязнаўства**
**ГАНБ імя Я.Ф.Карскага**

ДА 120-й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА

# "ПРАВЫ МОЖНА АДСТАЯЦЬ, ЗМАГАЮЧЫСЯ..."

Іван Луцкевіч (28.5.(9.6.н.ст.)1881, Шаўлі, Літва – 20.8.1919, Закапанэ, Польшча) беларускі археолаг, этнограф, публіцыст, палітычны дзеяч. Адзін з пачынальнікаў і ідэйных кіраўнікоў беларускага культурна-асветнага і грамадска-палітычнага руху.

Вучыўся ў Лібаўскай (Ліепайскай) і Мінскай гімназіях, Маскоўскім археалагічным інстытуце, Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Удзельнічаў у заснаванні Беларускай сацыялістычнай Грамады (1903), газет "Наша доля", "Наша ніва" (1906), "Гоман" (1908), Беларускага выдавецкага таварыства (1913), першых Беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў на Віленшчыне, Гродзеншчыне, Беласточчыне (1916), "Беларускага народнага камітэта" (1915-1918), Беларускага навуковага таварыства (1919).

Яго асабістая калекцыя беларускіх старажытнасцяў склала аснову Беларускага музея ў Вільні.



Разам з братам Антонам распрацоўваў пытанні фармавання самавызначэння Беларусі – ад канцэпцыі краёвай аўтаноміі, аднаўлення на канфедэратыўнай аснове ўніі Беларусі і Літвы (1906-1918) да абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі ў яе этнаграфічных межах.

Выступаў за аднаўленне на Беларусі царкоўнай уніі, ініцыіраваў пытанне аб нацыянальным самавызначэнні беларускага народа. Паўплываў на творчы лёс Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, З.Верас, М.Гарэцкага, Б.Тарашкевіча, Ф.Аляхновіча.

Аўтар навуковых і публіцыстычных прац па гісторыі, мастацтвазнаўству, кніжнай культуры Беларусі. Памёр ад сухотаў у Закапанэ(Польшча).

У 1991 годзе перапахаваны ў Вільні.

# ІВАН, НА ПРОЗВІШЧА ЛУЦКЕВІЧ

Іван Луцкевіч пажыў на гэтым свеце ўсяго 38 гадоў. Зрабіў надзвычай многа. Быў прызнаным лідэрам беларусаў Віленшчыны. Да яго прыходзілі за парадай. І ён тлумачыў людзям сваё перакананне: Беларусь будзе самастойнай краінай, роўнай сярод роўных. Ён умеў пераконваць, вылучаўся аратарскімі здольнасцямі. Як палітык, быў чалавекам слова, нязломным у прынцыповых пытаннях. Ненавідзеў ашуканства і прыстасаванства. Меў характар, прыдатны моцнаму палітычнаму дзеячу.

Адзіныя звесткі пра палітыка пакінула ў сваіх успамінах Юліяна Вітан-Дубейкаўская, якая пазнаёмілася з Іванам Луцкевічам у 1915 годзе. Яна вяла дзённікі і тыя занатаваныя падзеі склала ў рукапіс у 1953 годзе. Гэта зрабіла ў адказ на просьбу вядомай паэткі Наталлі Арсеньевай і пляменніка Луцкевіча – Лявона.

Лёс непрадказальны, і гэта яшчэ раз пацвярджае жыццё маладой дзяўчыны нямецкага паходжання Юліяны Мэнке. Дзякуючы Івану Луцкевічу, яна стала беларускай дзячкай. Мела цеснае знаёмства з Алаізай Пашкевіч, працавала поруч з Браніславам Тарашкевічам, Максімам Гарэцкім. Прычынілася да адкрыцця першых беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў, Віленскай Беларускай гімназіі. Іван Луцкевіч памёр на яе руках. Іх лучыла глыбокае пачуццё адзін да аднаго. Юліяна клапоціцца пра ад'езд Івана ў Закапанэ на лячэнне, хаця дактары адкрылі ёй страшную праўду – жыць засталося вядомаму беларускаму палітыку лічаныя месяцы.

Асоба Луцкевіча прыцягвае сваёй сумленнасцю і ахвярнасцю. Яго адносіны да акаляючых вылучаліся павагай і цікаўнасцю. Ён умеў знаходзіць добрае слова кожнаму. Яму плацілі тым жа. Здзіўляліся яго нястомнасці: узначальваў Беларускі камітэт у Вільні, рупіўся пра беларусаў, якіх вайна скранула з месца, выдаваў газеты, адозвы, пасляваў шукаць у Вільні беларускія старажытнасці, сустракаўся з дзесяткамі грамадзян, вырашаў іх праблемы, уважліва сачыў за палітыкай і не прапускаў ніводнай магчымасці, каб яшчэ раз нагадаць свету пра беларускі народ, які хоча мець сваю самастойную дзяржаву. Дзеля гэтага ён едзе ў Лазану на з'езд паняволеных народаў, дзе бараніў незалежнае становішча Беларусі і Літвы. У студзені 1918 года Іван Луцкевіч удзельнічае ў беларускай канферэнцыі ў Мінску. У сакавіку ён зноў у Мінску. Сярод іншых абвяшчае Беларускую Народную Рэспубліку. І гэта ў той час, калі хвароба прагрэсіравала, не давала пакою. Радаваўся з'яўленню новых змагароў – Янку Станкевічу і Браніславу Тарашкевічу. Апошні быў яго вылучэнцам. Іван сачыў за яго вучобай у Санкт-Пецярбургу, казаў, што гэты чалавек стане выдатнай навуковай сілай у пытаннях беларускай мовы і літаратуры.

Шмат сілаў вымагала падрыхтоўка і адкрыццё Беларускай гімназіі ў Вільні. Іван Луцкевіч дамогся дазволу заняць так званыя Базільянскія муры. Хутка тут ўжо выкладалі Максім Гарэцкі, Леаніла Чарняўская, першы дырэктар вучэльні Міхаіл Кахановіч, Алёна Сакалова, ксёндз Адам Станкевіч, браты Луцкевічы.

У студзені 1919 года Вільня была занята бальшавікамі. Пачаліся ператрусы. Наступіў голад. Тройчы праводзіліся вобыскі ў Івана Луцкевіча. Калі прыйшлі яго арыштоўваць, ён ляжаў хворы і змучаны. Камісары пастанавілі: няхай памірае сам, навошта дарэмна цягаць труп.

Неўзабаве ўлада зноў перамянілася. У Вільні запанавалі польскія вайсковыя аддзелы. Гэта дало магчымасць вывезці смяротна хворага Івана Луцкевіча ў Закапанэ. 20 жніўня 1919 года яго сэрца перастала біцца.

Жыццёвы шлях гэтага неўтаймавальнага чалавека вылучае яго ў першыя абаронцы беларускай справы. Усе падзеі беларусізацыі пачатку XX-га стагоддзя не абыйшліся без яго чыннага ўдзелу. Газета "Наша ніва", утвораная пры яго клопаце, аб'яднала лепшыя тагачасныя літаратурныя сілы Беларусі, выпесціла выдатных пісьменнікаў, у тым ліку Максіма Багдановіча.

Такія асобы як Іван Луцкевіч — гонар для любой нацыі. Для нас імя палымянага змагара павінна стаць сінонімам мужнасці і патрыятызму. Ён заслужыў сваё пачэснае месца ў пантэоне беларускіх адраджэнцаў.

**Антон Лабовіч**

**■ УСПОМНІМ ДОБРЫМ СЛОВАМ**

# КРАЯЗНАЎЦЫ ТАКСАМА НЯСУЦЬ СТРАТЫ


Д.І.Васілеўская

На каталіцкіх могілках у Ашмянах ёсць сціплы помнік жанчыне, якая любіла свой край і яго гісторыю. У гэтым беларускім горадзе яна нарадзілася і пражыла амаль усё жыццё, за выключэннем гадоў, калі набывала вышэйшую адукацыю ў Мінску.

Данута Іванаўна Васілеўская ў красавіку 2001 г. адзначыла б 55-ці годдзе. На вялікі жаль, не дажыла. Калі гаварыць увогуле, то ў асобе Д.І.Васілеўскай увасоблены рысы, характэрныя для многіх прадстаўнікоў яе пакалення: піянеры і камсамол, працавала на кіруючых пасадах, трапіла нават у лік раённай "наменклатуры".

Заўсёды і ўсюды заставалася разважлівай і добразычлівай. На першы план ставіла не асабістыя, а грамадскія інтарэсы. Магчыма, сёння гэта лічыцца і адмоўнай якасцю, але што зробіш – мы сапраўды ездзілі на цалінныя землі або Поўнач за "туманамі і пахамі тайгі".

Данута Іванаўна непасрэдна займалася развіццём культуры ў раёне. Нейкі час загадвала раённым краязнаўчым музеем імя Ф.Багушэвіча, працавала загадчыкам раённага аддзела культуры. Невыпадкова яе прозвішча можна знайсці ў спісе членаў раённай камісіі па напісанню Кнігі Памяці, сярод першых удзельнікаў сходу аб стварэнні ў раёне краязнаўчага таварыства (1-га ліпеня 1994г.). Займалася ахоўвай помнікаў гісторыі і культуры.

Дарэчы, краязнаўчы музей у Ашмянах – адзін з першых у Гродзенскай вобласці. Помніцца, у канцы 60-х меліся музеі толькі ў Горадні, Слоніме, Лідзе, Ваўкавыску, Свіслачы, Навагрудку. Не ўсе яны мелі профіль краязнаўства. Затым расчынілі дзверы музеі ў Дзятлаве, Карэлічах. У апошнія гады стаў працаваць музей у Смаргоні. У ліку энтузіястаў краязнаўчай працы былі Мікалай Собаль, Аляксандр Кіркевіч, Ядвіга Васькова, Кіра Кавальская, Ванда Юркевіч, Юры Карманенкаў (Гродна), Міхаіл Хотылеў (Ліда), Ірына Шнbyркова (Слонім) Міхаіл Петрыкевіч (Дзятлава)...

Ёсць адна асаблівасць: нягледзячы на малыя ўласныя заробкі і фінансаванне галіны культуры па "астатковаму прынцыпу", у лік музейных работнікаў тады пачалі ўлівацца энтузіясты з ліку моладзі. Данута Іванаўна – з іх асяроддзя. Ёй разам з калегамі (В.Цішчанка, Ж.Іванова, Н.Крапшыла, Э.Бралкоўская, І.Бусловіч, М.Дзятловіч) удалося аформіць цікавую па форме і змесце экспазіцыю. Дзякуючы Д.І.Васілеўскай, ашмянцы, у першую чаргу маладое пакаленне, вучацца жыць на прыкладзе старэйшых.

**А.Каранеўскі**

## Шчучын, 8 ліпеня...

Літаратурна-краязнаўчая канферэнцыя, прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння пісьменніцы Цёткі (Алаізы Пашкевіч) адбудзецца ў горадзе Шчучыне 8 ліпеня.

Зацікаўленых ва ўдзеле просім звяртацца да арганізатараў: 231510, г. Шчучын, вул.Леніна, 50.

Тэл. 2-25-73, загадчык цэнтральнай бібліятэкі Ніна Уладзіміраўна Раманава.

## Кіраўнікам школьных музеяў

Дырэктар АЦДЮТ Р.Валюкевіч і старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, прафесар А.Майсяёнак даслалі на імя кіраўнікоў школьных музеяў ліст наступнага зместу:

Гарадзенская краязнаўчая асацыяцыя сумесна з абласным цэнтрам дзіцячага і юнацкага турызму праводзяць конкурс турысцка-краязнаўчых і экскурсійных маршрутаў па славутых мясцінах айчыннай гісторыі, якія непасрэдна звязаны з дзейнасцю школьных музеяў.

Просім выслаць на адрас АЦДЮТ схему распрацаванага турыстычнага маршруту і кароткае яго апісанне (легенду). Пры распрацоўцы новых маршрутаў і экспазіцый школьных музеяў прыкладаецца план і кароткае абгрунтаванне. Лепшыя існуючыя і запланаваныя маршруты будуць апублікаваны ў "Краязнаўчай газеце" за подпісам іх аўтараў.

Для пастаяннага атрымання "КГ" і друкавання інфармацыйных матэрыялаў, просім запоўніць анкету "500 краязнаўцаў Гродзеншчыны", у якой кампактна пазначце Вашу працу па стварэнні і ўдасканаленні музейных экспазіцый і маршрутаў экскурсій па роднаму краю.

Спадзяемся на супрацоўніцтва і просім даслаць запоўненыя адказы да 10 чэрвеня 2001 года.

## Звярніце на гэта ўвагу!

**кіраўнікі краязнаўчых аб'яднанняў і суполак**

Усходнееўрапейскі дэмакратычны цэнтр IDEE абвясціў конкурс малых грантаў (да 1500 у.а.) на падтрымку грамадскіх і адукацыйных ініцыятываў у Беларусі. Першачарговае месца ў конкурсе займаюць праекты, накіраваныя на захаванне нацыянальнай, культурнай, гістарычнай і прыроднай спадчыны (краязнаўства, экалогія, лакальная гісторыя, турыстыка, мастацтва і г.д.).

Прыём заяваў (да 15 чэрвеня) ажыццяўляюць упаўнаважаныя рэсурсныя цэнтры. У Гродне – гэта абласное грамадскае аб'яднанне "Ратуша" (тэл. 44-22-90); у Віцебску – аддзяленне Фонда імя Льва Сапегі (тэл. 22-49-25); у Брэсце – цэнтр "Вежа" (тэл. 20-34-87); у Мінску – цэнтр "Супольнасць" (тэл. 263-99-90). У згаданых цэнтрах можна замовіць альбо непасрэдна атрымаць формы заявак.

Звяртаем увагу кіраўнікоў арганізацыяў Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута на магчымасць рэалізацыі праектаў у навучальных установах, накіраваных на факультатыўнае развіццё зацікаўленасці дзяцей і моладзі краязнаўствам і ахоўвай прыроды, а таксама на арганізацыю раённых альбо тэматычных краязнаўчых канферэнцый.

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22. Будзённага, 48-а.

Наклад 299 асобнікаў. Адказны за выпуск Сцяпан Брашчык. Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"